

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №7 (41)
ТРАВЕНЬ 2016 ГОДА

ГРАМАДСТВА

## СУСТРЭЧЫ ШВЭЙЦАРСКАГА ДЫПЛЯМАТА

**28 красавіка ў «Эўрапейскім клюбе» Віцебску кіраўнік аддзяленьня амбасады Швэйцарскай Канфэдэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Эбішэр Паскаль сустрэўся з прадстаўнікамі дэмакратычнай супольнасьці гораду і вобласьці. Сустрэча прайшла ў атмасфэры ўзаемаразуменьня і зацікаўленага абмеркаваньня.**

Адкрываючы мерапрыемства, Хрыстафор Жаляпаў, які выступаў у ролі мадэратара, пазнаёміў Эбішэра Паскаля з аўдыторыяй. На сустрэчы быў прадстаўлены амаль увесь спэктр няўрадавых арганізацыяў Віцебшчыны.

У сваю чаргу прадстаўнік Швэйцарскай Канфэдэрацыі паскардзіўся на адсутнасьць у Беларусі паўнавартаснай амбасады сваёй краіны і растлумачыў прычыну свайго візыту ў Віцебск: сустрэча з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасьці Прыдзьвіньня патрэбная яму для стварэньня паўнавартаснага ўяўленьня аб працэсах, якія адбываюцца ўнутры Беларусі.

Швэйцарскае прадстаўніцтва дзейнічае ў Беларусі з 2006 году, аднак таваразварот паміж нашымі краінамі складае ўсяго крыху больш за 200 мільёнаў эўра ў год, прычым у асноўным гэта імпарт з Швэйцарыі ў Беларусь.

Падчас размовы сябры няўрадавых арганізацыяў распавялі аб прававых, сацыяльных, палітычных і эканамічных праблемах, якія існуюць у краіне, і аб сваім бачаньні іх вырашэньня.

Як кіраўнік грамадзкай няўрадавай арганізацыі «Самакіраваньне і грамадзтва», Хрыстафор Жаляпаў зьвярнуў увагу дыпламата на існуючую праблему свабоды асацыяцыяў, якая паўстала праз пагаршэньне стаўленьня дзяржавы да арганізацыяў трэцяга сэктару. Так, калі ў пачатку двухтысячных гадоў у Віцебскай вобласьці налічвалася больш за 200 грамадзкіх арганізацыяў і грамадзянскіх ініцыятываў (больш за сто зь якіх былі зарэгістраваныя), то на цяперашні час колькасьць арганізацыяў скарацілася больш як у два разы, прычым толькі недзе чацьвёртая частка зь іх мае афіцыйную рэгістрацыю. Была зьвернутая ўвага і на наяўнасьць у краіне праблемы са свабодай слова і свабодай на правядзеньне маніфэстацыяў.

Юрыст Аляксей Гаўруцікаў прывёў жахлівы прыклад прававой экзотыкі па зьмене выбарчага заканадаўства па волі дзьвюх асобаў: старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і кіраўніка дзяржавы. Прычым прынятыя зьмены ніякай юрыдычнай экспэртызы Мін'юсту не праходзяць і ў юрыдычнай базе нарматыўна-прававых дакумэнтаў не рэгіструюцца. Іронію выклікае і нядаўна агучанае новаўвядзеньне: цяперчальцы выбарчых камісіяў будуць закрываць сваімі сьпінамі стол для падліку галасоў толькі з трох бакоў. Новаўвядзеньне дазволіць назіральнікам сачыць за працэсам падліку галасоў, не зазіраючы празь сьпіны выбарчай камісіі – значнае дасягненьне па дэмакратызацыі выбарчага працэсу.

Юрый Нагорны, як сябра ТБМ, папрасіў дыпламата падзяліцца досьведам суіснаваньня ў Швэйцарыі чатырох дзяржаўных моваў, распавёўшы пра дыскрымінацыйнае стаўленьне з боку тутэйшых чыноўнікаў да беларускай мовы.

Эбішэр Паскаль заявіў, што швэйцарцы вельмі прагматычная і разумная нацыя. Паводле дыпламата, нядаўна агучаная ў прэсе прапанова пра выплату штомесячнага безумоўнага даходу ў памеры 2500 швэйцарскіх франкаў, вынесеная на рэфэрэндум, будзе адхіленая большасьцю галасоў. Адхіленая з адной простай прычыны: гэта эканамічна ня выгадна. Вось такія яны, швэйцарцы.

У адрозьненьне ад швэйцарцаў кіраўніцтва постсавецкай Беларусі цяжка западозрыць у такім незразумелым тутэйшаму чалавеку прагматызьме. Таму тут усё так заблытана і непразрыста для эўрапейскага позірку.

У ходзе далейшай размовы многія прамоўцы пастараліся данесьці да дыплямата думку пра тое, што нягледзячы на зьняцьце санкцыяў і лібэралізацыю стасункаў з Захадам рэжым не зьбіраецца мадэрнізавацца ні палітычна, ні эканамічна. Але, як здалося многім прадстаўнікам трэцяга сэктару, хоць швэйцарскі дыплямат падзяляе і прымае асноўныя дэмакратычныя каштоўнасьці, яго падыход да ацэнкі падзеяў, якія адбываюцца ўнутры Беларусі, грунтуецца выключна на прынцыпах Real Politics.

**С. Горкі**

НАША СВЯТА

## "МОВАНАНОВА" АРГАНІЗАВАЛА ПЕРШЫ ОЎПЭН-ЭЙР

**У аграгарадку Заронава падсумавалі вынікі «навучальнага году», тром самым заўзятым «курсантам» уручылі прызы, і ўсе разам — госьці-гараджане і тутэйшыя вяскоўцы — адгулялі сямейнае свята «Гулі ў бабулі».**

У гэтым аграгарадку знаходзіцца «Музэй Заронаўскага краю», створаны з ініцыятывы былой настаўніцы, вялікай аматаркі краязнаўства і этнаграфіі Людмілы Нікіцінай. Вядома, ёй і быў нададзены ганаровы «тытул» бабулі — гаспадыні сьвята.

На сьвяце выступіла актрыса тэатру імя Якуба Коласа, вядомая ў Віцебску захавальніца вуснай народнай творчасьці Раіса Грыбовіч.

За парадкам пільна назіралі два міліцыянты ў форме. Многія госьці прыехалі на сьвята ў вышыванках ў цішотках зь беларускамоўнымі надпісамі.

«Бабуля» Людміла Нікіціна так і сыпала прыказкамі і прымаўкамі, запрашаючы гасьцей «у Заронаўскі музэй, што як рымскі Калізэй» або на пачастунак традыцыйнымі стравамі, якія прыгатавалі мясцовыя гаспадыні. Тут можна было пакаштаваць і марынаваных гуркоў-памідораў, і бульбы зь печы, і піражкоў са шчаўем, і «піцы па народным рэцэпце» — з грыбамі, сабранымі ў бліжэйшым лесе.

Людзей на «Гулі ў бабулі» сабралася пад сотню. Зь Віцебску прыяжджалі цэлымі сем'ямі, было нямала і заронаўскай дзятвы з бацькамі. Таму й «Сьпеўны сход» пад кіраўніцтвам саліста Белдзяржфілярмоніі, кіраўніка гурта «Vuraj» Сержука Доўгушава атрымаўся масавы — народныя песьні сьпявалі вялікім хорам.

А потым слухалі выступ гурта «Re1ikt», які выконваў і народныя, і аўтарскія песьні ва ўласнай апрацоўцы.

На сьвяце быў арганізаваны і выязны гандаль кандытарскімі вырабамі, і майстар-класы ад мясцовых майстроў хэнд-мэйду. Ахвотныя маглі набыць мёд, прывезены на продаж віцебскімі пчалярамі.

А тых, хто хацеў адпачыць ад гучнай музыкі і сьпеваў, гасьцінна чакаў мясцовы музэй. Некалі ён ствараўся як звычаны школьны музэйчык, куды вучні прыносілі прадметы побыту, зьбіраючы звыклыя ў такіх месцах калекцыі прасоў ці самавараў. Аднак экспазыцыя з часам разраслася, экспанаты, сабраныя тут, належаць па часе і да мінулага, і да пазамінулага стагодзьдзя...

«Я ганаруся, што нашы вучні праводзяць экскурсіі па-беларуску, навучаюцца размаўляць на роднай мове. На курсы „Мова нанова" мы ня езьдзім, у Віцебск — гэта далёка. Але вельмі радыя, што гэтыя курсы завіталі да нас самі», — кажа «бабуля» Людміла Нікіціна.

Паводле вядоўцы курсаў Сержука Маркава, імпрэзы на адкрытым паветры «Мова нанова» ладзіць упершыню. Сёлета такім чынам вырашылі адзначыць сканчэньне «адукацыйнага сэзону», але ёсьць задумка, каб завітаць «да бабулі» ў Заронава і на наступны год. А можа, і браць удзел у народных сьвятах ці абрадах цягам усяго году, прыяжджаючы ў розныя вёскі Віцебскага раёну.



Другая вядучая курсаў, Тацяна Дуброўская, гаворыць, што «Мова нанова» ў Віцебску мае пэўную рэгіянальную спэцыфіку:

«Да нас на заняткі ходзіць больш сталыя людзь, чымсьці, прыкладам, у Магілёве. Там курсы наведвае шмат моладзі, нават школьнікаў. А ў нас — людзі ад 30 і да 60-ці год, нават старэйшыя. І мы стараемся будаваць праграму так, каб менавіта ім было цікава. А яшчэ заўважыла, што віцябляне ў параўнаньні зь іншымі крыху сьціплейшыя, цішэйшыя, паводзяць сябе стрымана»...

**Радыё Свабода**

НАШЫ ЗАРОБКІ

## НАЙБОЛЬШАЯ ЗАПАЗЫЧАНАСЬЦЬ – Ў ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

**Сярод прадпрыемстваў-даўжнікоў пераважаюць арганізацыі сельскай і лясной гаспадаркі.**

Агульная сума пратэрмінаванай запазычанасці па заробку ў Беларусі па стане на 1 траўня склала 80,9 мільярда рублёў, паведамляе сайт Белстата. У параўнанні з сакавіком гэты паказчык павялічыўся на 12,9 мільярда рублёў.

Таксама за гэты перыяд у краіне вырасла колькасць арганізацый, якія дапусцілі запазычанасць па заробках - з 151 да 167.

Найбольшая запазычанасць па заробках у Віцебскай вобласці: 133 арганізацыі завінаваціліся 52,2 мільярда рублёў. Вобласць захоўвае па гэтым паказчыку лідэрства - у сакавіку тут было 125 арганізацый-даўжнікоў.

На другім месцы па колькасці арганізацый-даўжнікоў сталічны горад Мінск – тут 8 арганізацый і прадпрыемстваў (якія не выплацілі 18,5 млрд заробку).

Брэсцкая вобласць стала адзінай, дзе ў красавіку бягучага году не было запазычанасцяў па заробках.

Лідэрам па запазычанасці з'яўляюцца арганізацыі сельскай і лясной гаспадаркі - 132 з 176. Далей ідуць прадпрыемства будаўніцтва – 16, і прамысловасць – 15.

**А.Адамаў**

ПАМЯЦЬ

# РАДАЎНІЦКАЯ ТАЛАКА

**4 траўня перад Радаўніцай у Вераб'ёвым лесе, што на поўнач ад вёскі Хайсы, на меркаваным месцы масавых пахаваньняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў грамадзкія актывісты Віцебску правялі талаку: прыбралі сухое гальлё і лісьце, засыпалі пустыя яміны, пахавалі чалавечыя косткі...**

Гэткім чынам віцебскія актывісты ў чарговы раз нагадалі грамадзкасьці пра неабходнасьць найхутчэйшага вырашэньня праблемы афіцыйнай ідэнтыфікацыі знойдзеных чалавечых парэштак. Паўтара году мінула з таго часу, як была агучаная інфармацыя пра разрабаваныя чорнымі капальнікамі пахаваньні, але ўлады не сьпяшаюцца афіцыйна абвясьціць, хто і пры якіх акалічнасьцях быў забіты ў лесе. Паводле актывістаў, гэткае стаўленьне ўладаў мяжуе з наўмысным утойваньнем праўды пра сталінскія злачынствы.

У той самы час, як сьцьвярджаюць сябры ініцыятывы «Хайсы», амаль тры дзясяткі сьведкаў зь вёсак Хайсы, Дрыкольле і гораду Віцебску адназначна суадносяць зганьбаныя пахаваньні з даваенным пэрыядам. Аднак ніводнае дзяржаўнае ведамства ня хоча зважаць на гэтую акалічнасьць. Выходзячы з фармальных падставаў, яны заяўляюць, што асобы, якім перад вайной было недзе ад пяці да шаснаццаці гадоў, ня могуць быць сьведкамі тых падзеяў.

Паводле грамадзкіх актывістаў, цяперашняя талака стала чарговым крокам у справе аднаўленьня гістарычнай справядлівасьці і паважлівага стаўленьня да сваіх продкаў, асабліва да іх пакутніцкай сьмерці. Удзельнікі талакі адзначаюць, што зьдзек з ахвяраў сталінізму, якія знайшлі сваё апошняе пристанішча ў лесе пад Хайсамі, расьцягнуўся на восем дзесяцігодзьдзяў: спачатку іх гвалтоўна пазбавілі жыцьця; затым іхныя пахаваньні былі разрабаваныя, а параскіданыя па лесе іх парэштку нікога не цікавілі, а пасьля працы пошукавага батальёну і наогул былі перавезеныя ў невядомае месца. Калі чалавечыя парэшткі будуць пахаваныя, пакуль застаецца толькі здагадвацца.

Вось як тлумачаць некаторыя з удзельнікаў талакі сваю прысутнасьць на ёй.

Кажа спадарыня Алена: «Я тут таму, што гэта тычыцца мяне непасрэдна. Тут могуць ляжаць і мае дзядуля з бабуляй, якія былі рэпрэсаваныя. Мая маці нават перад сьмерцю не пазнаёміла нас з акалічнасьцямі іх жыцьця. Гэтая тэма была закрытай у нашай сям'і, хаця мама вельмі любіла распавядаць пра іншых нашых продкаў. Вось наколькі моцны быў страх, закладзены сталінізмам у глыбіні сьвядомасьці людзей таго пакаленьня. І таму я сюды прыйшла, бо хто ведае, мо менавіта тут яны і ляжаць? Цяпер у Віцебску ёсьць могілкі нават для сабак, дзе іх хаваюць па-людзку і ўсталёўваюць помнікі. Да жывёлаў ставяцца лепей, чымся тады ставіліся да людзей. І пра гэта трэба ведаць і нагадваць іншым».

Спадар Леанід: «Я прыйшоў на гэта месца, каб аддаць даніну памяці тым людзям, якія загінулі ад рук сталіністаў, бо цень сталінізму дагэтуль вісіць над нашай краінай. І гэта даволі трывожны знак. Кожны, хто гэта разумее, мусіць дзейнічаць і нагадваць пра магчымую небясьпеку. Трэба разумець, што бяспамяцтва і ўтойваньне праўды толькі павялічваюць магчымую пагрозу рэпрэсіяў да палітычных апанэнтаў любой улады...»

**С. Горкі**
**vitebskspring.org**

БУДАЎНІЦТВА

# ДАРОГА Ў АБХОД ВІЦЕБСКА

**Яна праходзіць праз гарадскі пасёлак Руба. Зараз будаўнікі працуюць над удасканаленнем транспартнай развязкі, а ў перспектыве адрамантуюць стары мост праз Дзвіну і ўзвядуць яшчэ адзін, новы.**

Пачынаючы ад рэканструкцыі транспартнай развязкі (прадугледжвае восем з'ездаў замест ранейшых чатырох), магістралі М8 мяжа Расійскай Федэрацыі - Віцебск - Гомель - мяжа Украіны і заканчваючы падыходам да моста, траса становіцца чатырохпалоснай з шырокай падзяляльнай паласой. Аўтамагістраль М8 на гэтым участку будзе першай катэгорыі, а паўночна-заходні абыход Віцебска - другой, як і на ўсім яго працягу. Ужо ўсталявалі апоры новага моста побач з існуючым.

Пасля ўзвядзення новага моста мяркуецца рамонт старога, паведаміў начальнік упраўлення тэхнічнага нагляду РУП «Віцебскаўтадор» Мікалай Швед.

Для маштабнай дарожнай перапробкі, па падліках спецыялістаў, агулам спатрэбіцца 40 тыс. куб. м грунту. Неабходна пакласці на падыходах да моста і развязкі каля 20 тыс. куб. м пясчана-гравійнай сумесі, 50 тыс. куб. м друзу, 35 тыс. тон асфальтабетону.

Зараз у Рубе будуюць пешаходныя дарожкі і падземны пешаходны пераход з унутраным і вонкавым асвятленнем. Для забеспячэння бяспекі пешаходаў праект прадугледжвае аддзеленыя ад асноўнай праезнай часткі аўтобусныя прыпынкі з павільёнамі. Каб засцерагчы жылую забудову гарадскога пасёлка ад транспартнага шуму, уздоўж аўтадарогі ўсталююць шумаахоўныя экраны.

- Пасля ўводу ў эксплуатацыю «Паўночна-заходняга абходу горада Віцебска» чакаецца значнае павелічэнне інтэнсіўнасці транспартнага патоку на аўтамабільнай дарозе М8/Е95, таму новая траса дасць магчымасць павысіць бяспеку руху ў Рубе, - канстатаваў Мікалай Швед.

Плануецца, што распачаты ў канцы 2014-га аб'ект павінны здаць у кастрычніку 2017-га года.

**http://auto.tut.by**

ЗДАРЭННЕ

# ВАЛОВЫЕ ПОКАЗАТЕЛИ РАСТУТ, ПРЕДПРИЯТИЯ — В УБЫТКЕ

**Итоги работы отрасли животноводства Витебского района за первый квартал были рассмотрены на очередном выездном заседании Витебского райисполкома.**

В выездном заседании исполкома приняли участие первый заместитель генерального директора РУП «Витебское племпредприятие» Анатолий Шпыркин и главный госинспектор труда областного управления Департамента госинспекции труда Светлана Головей.

Открывая пленарное заседание, Геннадий Сабынич критично подошел к оценке работы экономического блока сельхозорганизаций. По его словам, уже подведены итоги первого квартала, и задуматься есть над чем. Недостаточно глубокий анализ ситуации со стороны «счетоводов». А ведь именно экономисты должны составить дорожную карту по получению выручки, снижению себестоимости продукции, затрат и «положить ее на слух» главным специалистам и, конечно же, руководителю.

— Все решения, которые касаются экономики, в этом году конкретизированы и приняты. Их просто нужно реализовать. Прямым руководством к действию является указ Президента № 78. В нем определены основные направления работы, предельно четко расписано каждому, что и как делать. Факторы роста и резервы, способные обеспечить устойчивое развитие, есть в каждом хозяйстве. И первым из них является снижение всех видов затрат на производство и реализацию продукции, — заключил глава района.

По итогам первого квартала по району темп роста валовой продукции сельского хозяйства обеспечен на 100,1%, за март — 102,5% к аналогичному периоду прошлого года.

Выполнили показатели развития по увеличению валового производства колхоз «Ольговское», филиал «Зеленая Нива» и УП «ЧЕСС-Бел-Агро». Обеспечили его рост филиалы «Полудетки» и «Вымно» ОАО «Молоко», СХП «Мазоловогаз», «Лучеса» ОАО «Витебский КХП», ОАО «Рудаково», «Агротруд» и «Липовцы». Низкие темпы производства у валообразующего предприятия района — ОАО «Витебская бройлерная птицефабрика».

Убыточными по итогам работы за январь-февраль являются 6 сельхозорганизаций. Причины убыточности называются самые разные: снижение качества реализуемой продукции, рост стоимости материальных затрат (ГСМ, электроэнергия, медикаменты); увеличение доли покупных кормов и связанные с этим затраты по транспортировке; низкие закупочные цены на крс (неизменные на протяжении 3-х лет); рост расходов по текущей деятельности за счет начисления процентов по предоставляемым коммерческим займам перерабатывающими предприятиями, индексации задолженности за потребленные энергоресурсы.

Соотношение темпа роста производительности труда и темпа роста заработной платы, согласно Постановлению Совета Министров Республики Беларусь № 744 от 31.07.2014 г., 1 (единица) и более достигли 5 сельхозорганизаций.

— Снижение производства продукции по ряду сельхозорганизаций говорит о серьезных недоработках специалистов всех служб, которые не приняли необходимые меры для получения хорошего финансового результата, — подытожил Олег Шершнев.

Численность крупного рогатого скота на 1 апреля составила 39071 голова, дойных коров — 12429. Почти все сельхозорганизации достигли уровня прошлого года по численности крс и начали наращивать поголовье, что нельзя сказать о дойном стаде. Руководителям и главным специалистам необходимо усилить контроль за сохранностью поголовья и увеличить темпы наращивания не только общего поголовья, но и дойного стада.

За март по району валовое производство молока составило 52752 центнера или 100,6% к аналогичному периоду 2015-го. Снизили темпы к уровню минувшего года ОАО «Возрождение», «Липовцы», «Агротруд», экспериментальная база «Тулово», КУСХП «Пестуница».

К недополучению молока, по мнению заместителя начальника управления сельского хозяйства и продовольствия райисполкома Константина Шевякова, привело отсутствие надлежащего контроля со стороны главных специалистов за соблюдением дифференцированного кормления животных, технологии раздоя, своевременным устранением технических неисправностей.

Средний удой от коровы по итогам марта составил 1181 кг. Реализация молока — 46686 центнеров. Товарность его — 88,5%. Причиной снижения последнего показателя К. Шевяков назвал увеличение внутрихозяйственного расхода молока. Он составил 11,4% от производства.

Средний расход молока на одну голову приплода по району вырос на 41,7 литра и достиг 396 кг. Положительная динамика отмечена в ОАО «Липовцы», «Рудаково», «Витебская бройлерная птицефабрика», колхозе «Ольговское» и КУСХП «Пестуница». В то же время филиал СХП «Мазоловогаз» снизил этот показатель.

Производство (выращивание) крупного рогатого скота по району составило 5045 центнеров или 108% к уровню 2015 г. С «минусом» сработали КУСХП «Пестуница», ОАО «Липовцы», экс/база «Тулово».

При подведении итогов Геннадий Сабынич заключил, что услышал диалог руководителей, специалистов — собственно, в этом и заключается цель проведения подобных выездных исполкомов.

Руководитель районной вертикали убежден, что встречи в таком формате ценны в плане обмена опытом. И эта практика будет иметь продолжение.

— На примере высокоорганизованных хозяйств будем учиться, а где уровень чуть пониже — в диалоге будем искать пути выхода из сложившейся ситуации, чтобы в конечном итоге обеспечить выход на прибыльную работу, — заключил председатель райисполкома.

**Татьяна Диканова**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

РЭХА ПЕРАМОГІ

# «КАК БУДТО НЫНЕШНЕЕ НАЧАЛЬСТВО ИМЕЕТ КАКОЕ-ТО ОТНОШЕНИЕ К ТОЙ ПОБЕДЕ»

**В Беларуси День Победы отметили менее помпезно, чем в России. Власти постарались, в частности, минимизировать присутствие «георгиевской ленточки», которая после Крыма, войны на Донбассе воспринимается у нас неоднозначно. Не было в этот раз парада. Но по большому счету, белорусская идеологическая вертикаль не может отойти от советской матрицы празднования 9 мая.**

**Аллергия на казенщину**

Многие мои знакомые принципиально проводят этот день вдали от тусовок с казенной символикой, банальными речами и пивом, потому что для них та война — прежде всего страшная трагедия, катастрофа на всех уровнях: глобальном, национальном, уровне отдельной семьи. Своей семьи.

Люди думающие убеждены, что та Победа не должна маскировать провалы, подлости, жестокость сталинского режима. И тем более не должна маскировать бездарность нынешних властей, пытающихся спекулировать на подвиге дедов и прадедов.

Лента фейсбука в эти дни поведала мне много трагических историй, контрастирующих с официозной бравурностью, — о позоре оккупации, оборотной стороне «партизанки», презрительном отношении коммунистического начальства к человеческой жизни как на фронте, так и в тылу, возвращении после победы в неволю в собственной стране... В иных семьях жертв репрессий «родных» властей оказалось больше, чем павших на той войне.

Судя по воспоминаниям, например, огромное число белорусских мужчин (в том числе мой дед Иосиф, пулеметчик) полегло в 1944-45 годах в боях с немцами в Восточной Пруссии. Не обученных как следует, необстрелянных, их бросали в самое пекло, в лобовые атаки на амбразуры — как бы в отместку за годы, проведенные под оккупацией. Будто эти люди были виноваты, что в 1941-м не попали под мобилизацию, потому что Красная Армия откатилась на сотни километров за считаные дни.

**Правда и фальсификация: все перевернуто**

И в России, и в Беларуси власти с раздражением реагируют на неприятную правду о той войне. В их трактовке «правда» — это удобная лакированная мифология.

Вот и Александр Лукашенко, выступая 9 мая на возложении венков к монументу Победы в столице, шаблонно повторил: «Мы не позволили и никогда не позволим исказить правду об этой победе, фальсифицировать и отнять ее у наших детей и внуков».

Официальный лидер также подчеркнул, что за период оккупации «наши партизанские отряды и соединения уничтожили более полумиллиона вражеских солдат и офицеров, не меньше, чем союзные армии США и Великобритании после открытия второго фронта».

«Мы»! Как будто нынешнее начальство имеет какое-то отношение к той Победе. А где ваши собственные победы? Вы что, приблизили свою страну материально к уровню Запада, тех же немцев? Как бы не так. Сегодня «белорусская модель», которая держалась на советской индустриальной базе и российских дотациях, коллапсирует. Убогость хозяйственного (как и прочего) мышления, непрофессионализм отечественных державных мужей высветились нынешним кризисом во всей красе.

**Привязка к советской матрице**

В целом масштаб торжеств в честь Дня Победы в Беларуси в последние годы снижается, что особенно заметно, если сравнивать с размахом и помпезностью празднования этой даты в России. Такой вывод делает политолог и историк, эксперт минского аналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич.

В комментарии для Naviny.by онотметил:«Белорусскиевласти стараются дистанцироваться от характерного для России имперского концепта этого праздника. Но делают это мягко, чтобы не осложнить отношения с Москвой».

На некоторое отличие белорусского формата празднования Дня Победы от российского обратил внимание в комментарии для Naviny.by и минский историк, шеф-редактор журнала Arche Александр Пашкевич. По его мнению, различие «определяется тем, что, как бы ни относиться к нынешней белорусской власти, ей все же чужды имперскость и реваншизм».

**Консервация унылого застоя**

При этом, добавлю, белорусские власти не просто по инерции следуют ритуалу или продолжают его культивировать во избежание конфликтов с Москвой (где в последнее время и так модно будировать тему «батькиной измены»).

Нет, белорусское начальство использует то, что на казенно-пафосном сленге называется «наследием Великой Победы», достаточно прагматично и по-своему гибко. Власти спекулируют на военной тематике, исторической памяти белорусов о колоссальных страданиях, чтобы перевести стрелки, сместить фокус с собственных экономических провалов.

Не случайно, полагает Карбалевич, и открытие пятого Всебелорусского народного собрания — традиционного мероприятия в стилистике съездов КПСС — назначено на 22 июня, день начала Великой Отечественной войны. По мнению политолога, белорусам снова будут внушать, что нет ничего важнее мирного неба над головой.

«Власти смещают акцент на то, что главные уроки той войны — это необходимость сохранять мир, стабильность, порядок на белорусской земле», — отмечает Карбалевич.

И если отбросить искусственный пафос официозных ораторов, то в нашей ситуации это означает подвести базу под консервацию унылого застоя.

***Александр Класковский***
**naviny.by**

ГАНЕБНЫ РЭФЕРЭНДУМ

# 10 НЯПРАЎДАЎ ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**14 траўня 1995 году адбыўся рэферэндум, які зрабіў рускую мову дзяржаўнай, а беларускую адсунуў убок. Старыя забабоны пра беларускую мову з таго часу не зніклі, а новыя набылі форму. Я сабраў дзесяць самых знаменных забабонаў і прэтэнзій да беларускай мовы, што дасюль выкарыстоўваюцца ў спрэчках.**

**1. Мова ўсяго толькі зручная прылада стасункаў.**

Выказванне, з якім звыкла згаджаюцца. Але з яго само сабой вынікае, што варта карыстацца прыладамі, што маюцца пад рукой – а гэта, у сучаснае Беларусі – руская мова і рускія словы.

Сцверджанне гэтае – падступная недагаворка. Мова не толькі і не столькі прылада, колькі складаная сістэма светабачання, знітаваная з каштоўнасцямі. Мова накідае на свет сваё сеціва тлумачэнняў, што адрознівае мову адну ад адной, задае гульню сэнсаў. Беларускім "каханню" і "любові" адпавядае адна руская "любовь", "памяркоўнасць" амаль не перакладаецца, а зручная "шуфлядка" выклікае ў суседзяў ступар.

Лічыць мову проста прыладай не выпадае.

**2. "Няма розніцы, якой мовай карыстацца".**

Гэтае сцверджанне звычайна закладзенае ў пытанні: "А якая розніца?", якое гучыць (заўжды) на рускае мове. Чыноўніцкі варыянт такой "абыякавасці" – выказванне: "У нас дзве дзяржаўныя мовы".

Гэтае сцверджанне – нават прапісанае ў канстытуцыях (шматкроць змененых) – фактам не адпавядае. Атрымаць вышэйшую адукацыя на беларускае мове – справа амаль немагчымая (на ўсю краіну толькі тры ста беларускамоўных студэнтаў), законы выдаюцца на рускае мове, на тэлевізіі беларускую мову, калі і адшукаць можна, то толькі гады ў рады. У сучаснае Беларусі розніца ёсць – і ў дзяржаўных інстанцыях яна на карысць рускае мовы.

**3. Беларуская мова правінцыйная.**

Беларуская мова калісьці гучала ў вёсках, але даўно перабралася ў горад. Сёння цікавыя – і нават элітарныя – рэчы гучаць на беларускае мове. За рускай мовай зарэзэрваваная пакуль масавая культура.

**4.Яквыкладацьматэматыку, фізіку па-беларуску?**

Сцверджанне блізкае да папярэдняга і ва ўшчэнт хлуслівае. Беларуская тэрміналогія добра распрацаваная, маюцца слоўнікі, падручнікі, энцыклапедыя. На беларускае мове выкладалася – і выкладаецца – матэматыка ў Беларускім гуманітарным ліцэі, які, нягледзячы на свой сённяшні падпольны статус, застаецца выдатнай адукацыйнай установай.

**5. Час нацый прайшоў. Навошта чапляцца за мову?**

Гэтае сцверджанне звычайна выкарыстоўваецца, каб абвінаваціць беларускую мову і людзей, што яе абараняюць – у рэакцыйнасці і адсталасці. Але чамусьці працэсы моўнага рэнесансу і аднаўлення нацый, што здаўна ўключаныя ў тыя ці іншыя дзяржавы, адбываюцца ў самых розных рэгіёнах Заходняй Еўропе, на якую спасылаюцца абвінавачвальнікі.

**6. Пакінем усё як ёсць.**

Пакінуць усё як ёсць ні ў кога не атрымаецца. Моўныя працэссы ніколі не стаяць на месцы. Умовы, што скляліся ў Беларусі – русіфікаваныя школы, тэлевізія, абсалютная дамінацыя расейскай інфармацыйнай прасторы – толькі спрыяюць далейшаму выцісканню беларускае мовы, якое, зрэшты, у лукашэнкаўскай Беларусі ідзе імклівымі тэмпамі (з 1995 года нават палову дашкольнікаў ў вёскаў выхоўваюць на рускае мове, чаго раней не было ані блізка). Каб захаваць хоць бы існы ўзровень беларускае мовы, трэба прыкладаць намаганні, якія "пакідальнікі" прыкладаць не збіраюцца.

**7. Народ выказаўся на рэферэндуме. Большасць – супраць.**

Праведзены з парушэннямі і махлярствамі рэферэндум не мае сілы. Мала таго, аніякі рэферэндум на гэтую тэму не будзе мець сілу, бо выказвацца на конт мовы – што існуе праз пакаленні – мусяць не толькі жывыя, але і памерлыя і тыя, што яшчэ не нарадзіліся.

**8. Навязванне беларускае мовы парушае правы чалавека.**




Гэтае сцверджанне перапоўненае перакрутамі. Правы адна-го чалавека завяршаюцца там, дзе пачынаюцца правы другога. Для рускамоўнага чалавека ў Беларусі адкрытыя ўсе шляхі, беларускамоўны штодзень сутыкаецца з перашкодамі – і гэта ягоныя правы заціснутыя. Кажуць нават пра "лінгвацыд" – вынішчэнне беларускае мовы, як такавой.

Але ёсць яшчэ адзін чыннік. Мова – з'ява калектыўная, і калектыўная культурная каштоўнасць. За яе захаванне адказвае грамадства – і дзяржава, на тэрыторыі якой мова жыве. Пакуль гэтая адказнасць, што прадугледжвае пэўныя абавязкі, не праяўленая.

**9. Гэта пытанне, увогуле, для грамадства не істотнае.**

Калі гэтае пытанне такое неістотнае, то чаму на яго так нервова рэагуюць суседзі? Ім – што за справа? І чаму на гэтае "неістотнае" пытанне ўпарта рэагуюць "абыякавыя", якія сядзяць на беларускамоўных форумах, з пенай у роце даказваючы, што ім напляваць? Зрэшты, калі абыякавым напляваць, іншым не.

**10. "Я асабіста не супраць беларускае мовы".**

З гэтага выказвання звычайна пачынаецца выказванне пра беларускую мову. А потым следуюць усе ці асобныя ўзгаданыя аргументы. Калі чалавек, сапраўды, быў бы не супраць беларускае мовы, ён гэтымі аргументамі не карыстаўся бы.

**Андрэй Расінскі**
**"Новы час"**

ПРА БЕЛАРУСЬ

# ЛЕНИВЫЙ НАРОД

**Зацепило! Призыв Александра Лукашенко к белорусам работать еще лучше, а не кивать на власть, прозвучал полным издевательством.**

Свою пламенную речь глава государства произнес совсем недавно, общаясь после пасхального богослужения с жителями Шклова. В частности, Лукашенко призвал граждан критически оценивать, прежде всего, результаты собственного труда, думая над тем, как работать еще лучше.

– Если мы начинаем друг на друга толкать, что это кто-то должен сделать, не я, это власть плохая, которая должна сделать – это плохо, это неправильно. Надо, прежде всего, смотреть на себя – а что я сделал?

Примечательно, что сообщить гражданам о том, что они недорабатывают, Лукашенко решил в День труда – 1 мая. Да и посыл не кивать на власть прозвучал с точностью наоборот: мол, сами виноваты – плохо работаете.

Впрочем, обвинять своих сограждан во всех экономических неудачах — давняя практика Александра Григорьевича. В 2014-м белорусы устроили ему в стране девальвацию, скупив в обменниках доллары и накупив автомобилей. В 2013-м обрушили легкую промышленность, вывезя из страны валюту и «привозя назад европейский мусор». В 2011-м подорвали золотовалютные запасы страны, устремившись на курорты в Египет. А потом и вовсе решили устроить в стране голод, разобрав в магазинах сахар и масло.

Теперь вот еще выяснилось, что и работают они не очень... А пока власть упахивается, нам стоит задуматься, где же мы так сильно недоработали?

Может, это крестьяне так плохо вскопали землю, что внешний госдолг вырос до рекордных 13 миллиардов долларов?

Или, может, рабочие так плохо трудились, что количество скопившихся на складах тракторов и прочей продукции превысил все возможные пределы?

Или, может, это ленивые работники предприятий так намылили глаз руководству, что оно больше не в состоянии было видеть их чаще трех раз в неделю, отправив в «незаслуженные» отпуска?

В общем, есть о чем задуматься. Хотя уже сейчас можно с точностью сказать, где именно белорусы недоработали и что до сих пор не сделали из того, что давно должны были сделать — это заставить власть уважать себя.

**Анастасия Зеленкова**
**gazetaby.com**

БЕЛАРУСЬ - РАСЕЯ

# ГАЗАВАЯ ПАСТКА

**Цяперашні беларуска-расейскі газавы канфлікт, які распачынаецца на нашых вачах, мала падобны да ранейшых. Тыя дамовы аб цэнах на газ, якія былі падпісаныя паміж Менскам і Масквою ў пэрыяд высокіх коштаў на энэргарэсурсы, тады былі выгадныя Беларусі. Цяпер, калі сусьветныя цэны на нафту ўпалі (а газавыя кошты ў значнай ступені прывязаныя да нафтавых), ранейшыя пагадненьні сталі нявыгаднымі для беларускай дзяржавы. Аднак Расея адмаўляецца іх пераглядаць, спасылаючыся на тое, што дамовы, на якіх у 2011 годзе настойваў Менск, трэба выконваць.**

І вось у такой сытуацыі здарылася абвастрэньне канфлікту. Гаворка ідзе ня проста пра элемэнтарную завінавачанасьць, якой у беларускай эканоміцы цяпер шмат, бо ў прадпрыемстваў няма чым плаціць. У дадзеным выпадку беларускі бок пайшоў на абвастрэньне, пачаў дзейнічаць з пазыцыі сілы, стаў явачным парадкам усталёўваць сваю, «справядлівую», на думку Менску, цану на газ. Гэта не самадзейнасьць абласных арганізацыяў, якія займаюцца газазабесьпячэньнем. У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра сьвядомую пазыцыю ўраду, прынятую на палітычным узроўні, яе агучыў віцэ-прэм'ер Уладзімер Сямашка. Беларусь чыніць ціск на Маскву, каб тая ў гэтым пытаньні пайшла на саступкі.

Так часта бывала і раней, калі беларускі бок не прасіў, а патрабаваў ад Расеі саступак, ішоў на скандал. Узгадаем, напрыклад, калійную вайну 2013 году, калі кіраўніцтва Беларусі брутальна арыштавала гендырэктара расейскай кампаніі «Ўралкалій» Уладзіслава Баўмгертнэра, патрабуючы кампэнсацыі за нанесеную шкоду і крыўду.

Як і тады, цяпер Лукашэнка таксама ідзе на публічны канфлікт, паводзіць сябе з Расеяй досыць сьмела, нават правакатыўна. Варта зауважыць, што падчас нядаўняга выступу ў Нацыянальным сходзе з пасланьнем кіраўнік дзяржавы даволі жорстка крытыкаваў РФ. Лепшы спосаб абароны, апраўданьня за пэўнаедыстанцыяваньне ад Масквы ў замежнай палітыцы — гэта наступ. Лукашэнка нават прыводзіў у прыклад пазыцыю Захаду, супрацьпастаўляючы яе расейскай. Паездка ў Стамбул — гэта таксама быў пэўны выклік Маскве.

У чым прычыны такой вольнасьці? На мой погляд, тут справа ў тым, што падзеньне сусьветных нафтавых коштаў разбурае адну з крыніц эканамічнай падтрымкі Беларусі з боку Расеі. Расейскі энэргетычны грант моцна зьменшыўся. Гэта значыць, што зьмяншаецца ступень эканамічнай залежнасьці Менску ад Масквы. І гэта дазваляе беларускаму кіраўніцтву паводзіць сябе больш свабодна ў дачыненьні да РФ.

І тут цікавая рэакцыя расейскага боку. У "Газпрома" ёсьць вельмі дзейсны рычаг ціску на Беларусь, які ён раней выкарыстоўваў шмат разоў. Расейская кампанія магла проста скараціць пастаўкі газу ці хоць бы прыгразіць гэтым. Бо газавы кранік у яе руках.

І што ж робіць дзяржава, якая прэтэндуе на глябальную ролю ў сьвеце, якая ўступіла ў зацяты палітычны канфлікт з самімі Злучанымі Штатамі? Цяжка паверыць, але яна ў спрэчцы з бліжэйшым саюзьнікам апэлюе да міжнароднага права. Кампанія «Газпром трансгаз Беларусь», якой валодае «Газпром», падала пазоў у міжнародны арбітраж на беларускія абласныя газавыя структуры. Расея будзе судзіцца зь Беларусьсю! Выпадак унікальны. Звычайна беларуска-расейскія разборкі ладзяцца «па пацанскіх паняцьцях»: бакі высьвятляюць, хто больш круты. А вось цяпер усё мае вырашыць суд. Як казаў Лукашэнка, сьвет страціў розум.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# «НЕУЖЕЛИ ЗА 40 ЛЕТ РАБОТЫ Я НЕ МОГУ ПОСТРОИТЬ КОТТЕДЖ?»

**Сенатор Анна Шарейко недоумевает, почему она, руководитель со стажем, должна оправдываться в суде за дом, дачу в глухой деревне, машину и любовь с литовским бизнесменом.**

— Этот злосчастный дом — как бельмо для всех. Зачем я тогда работала всю жизнь, если не могу позволить минимальные блага в предпенсионном возрасте? Я не воровала у государства! — заявила во вторник в Верховном суде сенатор и директор Витебской птицефабрики Анна Шарейко.

Она говорила громко, четко, эмоционально, часто ссылаясь на цифры и статистику.

— Анна Васильевна зажигает, — говорили в перерыве адвокаты.

Напомним, уже третий месяц суд рассматривает громкое дело руководителя птицефабрики «Ганна». Вместе с ней в статусе обвиняемого оказались еще 6 человек. Следствие уверено: во время тендера на поставку кормов Шарейко лоббировала интересы компании «Русском-Р», которая фактически принадлежит ее литовскому возлюбленному Вальдемарасу Норкусу, и отклонила более выгодное предложение ОАО «Экомол», что привело к ущербу в 4 миллиарда рублей.

— Как можно так все перевернуть? О каком лоббировании идет речь? — не скрывала свое возмущение Анна Шарейко. — Никогда на планерках не говорила, что покупать премиксы нужно только у «Русском-Р». Как бы я потом смотрела в глаза специалистам? Я поступала честно, справедливо и верно. Никогда не обсуждала с Норкусом дома рабочие дела. У меня было два мира — дом и работа, и эти миры никогда не путала. Волосы вставали на голове, когда читала обвинение.

А дальше гособвинитель стал интересоваться всем: когда была продана квартира и построен дом? ночевал ли Норкус у Шарейко? когда они стали жить вместе? кто платил в ресторане за ужин?

— Все расскажу, мне нечего скрывать. Продав квартиру, одолжила денег у сестер под честное слово, до сих пор не рассчиталась. В 2009 году брала у Норкуса заем и вернула.

— Так где вы взяли деньги на строительство дома? — уточнил прокурор Метельский.

— Послушайте, я 40 лет работала. Неужели не могу построить коттедж в 230 квадратов, из них только 120 квадратов жилых. Чем этот дом отличается от других? В нем нет ничего сверхъестественного: стены покрашены краской, наполовину сделан из стекла, это позволило удешевить проект. Да, он выглядит не так, как все дома в Витебске, потому что его проектировали в Литве.

— Вы объездили полмира. За какие средства? — спросил гособвинитель.

— Следствие перепутало все поездки — и личные, и командировки. От птицефабрики я была в Италии, Израиле, Турции, Бельгии, Германии, Голландии... С Норкусом нас связывали только искренние, ничем не обремененные чувства. Я и теперь не знаю, что у него есть из имущества и на кого оно зарегистрировано.

— Чувства — это хорошо, но кушать хочется всегда, — отметил прокурор Метельский. — Кто платил за поездки?

— Норкус европейский человек, а я независимая женщина. Каждый платил за себя. Мы не вели совместного хозяйства, только договорились, что в новом доме я оплачиваю интернет, электроэнергию, вывоз мусора, а он — аквариум, бассейн и обеспечивает уборку.

— А в ресторане кто платил?

— Послушайте, неужели мужчина не может за меня заплатить? Да, я ела за его счет, — улыбалась Шарейко. — Меня удивило, что в материалах уголовного дела еще и технику в доме перечислили. Государственный обвинитель, вот у вас дома «Витязь» стоит? (прокурор улыбнулся, но промолчал. — Ред.). У меня, как и у всех, стоит Sony. И что? Следствие все перевернуло. Дом — это мое единственное жилье, счетов нет, бизнеса тоже, родственников перекопали, все живут скромно.

Анне Шарейко пришлось также объяснять, почему она звонила руководству «Русском-Р», зачем просила погасить перед ними долг.

— Не доводите все до абсурда. Это рабочие вопросы. В день у меня тысяча звонков. Пусть бы кто пожил в таком ритме, как работала я, сошел бы с ума, — отметила Шарейко. — Грамотному человеку понятно и видно, как проводилась проверка «Экомола» и Витебской птицефабрики. Если бы следствие согласилось провести экономическую экспертизу, все стало бы на свои места, но нам дважды отказали.

О том, что дела на фабрике теперь не очень, говорят и нынешние сотрудники, и те, кто сейчас сидит за решеткой. Согласно цифрам, озвученным в суде, в 2015 году предприятие недополучило прибыль в 194 миллиарда. А в предыдущих годах прибыль составляла 10 миллионов долларов.

— Если бы не отсутствовала руководство и ключевые специалисты, которые сейчас находятся под стражей, этого не было бы! Мы прошли такую закалку! У фабрики теперь трудное финансовое положение, не за что покупать добавки, корма. Специалисты напуганы правоохранительными органами и боятся выбрать лучшего производителя. Это правоохранительные органы наносят ущерб — и дальше все идет по наклонной? — уверена Анна Васильевна.

Единственный, кто выступил против Шарейко и ее команды — Владимир Лиоренцевич. Он единственный, кто остается на свободе и находится под подпиской о невыезде. На показаниях бывшего главного специалиста фабрики строится все обвинение. Однако в суде выяснилось: в тот день, когда Шарейко якобы вызвала его в кабинет и дала указание, чтобы тендер выиграл «Русском-Р», Анна Васильевна была за границей.

— Все слова лживые, и все заявления Лиоренцевича можно опровергнуть, — добавила Шарейко.

Процесс продолжается.

**Катерина Борисевич**
**«Комсомольская правда в Белоруссии»**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 17.05.2016 у 16.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.